ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№14 (2520)

3 красавіка 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## ТЫДЗЕНЬ ДЗІЦЯЧАЙ КНІГІ






**У Доме літаратара ў Мінску адбылося ўрачыстае адкрыццё Тыдня дзіцячай кнігі, прымеркаванага да школьных канікулаў. У фае была разгорнута "кніжная лаўка", дзе ішоў гандаль любімымі кнігамі дзятвы. А потым быў канцэрт для юных паклоннікаў літаратуры.**

**НА ЗДЫМКАХ: працуе "кніжная лаўка"; на адкрыцці Тыдня дзіцячай кнігі чацвёртакласніца 168-й мінскай школы Надзя ГУЧАК купіла вось такую кнігу.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

ГІСТАРЫЧНЫЯ ПАРАЛЕЛІ

## БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ: УЗЛЁТ І ПРАВАЛ

Першая сусветная вайна і цесна звязаныя з ёю падзеі Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 года, замежная ваенная інтэрвенцыя, суровае супрацьстаянне ўнутры самога грамадства прычынілі не толькі шмат гора і пакут беларускаму народу. Яны садзейнічалі яшчэ і яго нацыянальнаму абуджэнню. Сваімі канкрэтнымі дзеяннямі па будаўніцтву незалежнай дзяржавы шмат зрабіў для гэтага і ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. Станоўча адбілася на нацыянальным жыцці краю ўтварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Усё гэта вельмі плённа выкарыстала інтэлігенцыя, якая сваімі творамі будзіла людзей ад летаргічнага сну, спрыяла фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці.

Пад уплывам карэнных перамен у поглядах шырокіх колаў людзей на беларускае пытанне, тых пазітыўных мерапрыемстваў, якія праводзілі бальшавіцкая партыя і дзяржаўныя органы СССР у сферы нацыянальнай палітыкі, у лепшы бок мянялася і стаўленне да яго партыйных, дзяржаўных дзеячаў Беларусі. Сур'ёзнай перашкодай не стала і тое, што сярод іх было шмат прысланых Масквой асобаў небеларускай нацыянальнасці.

Цяпер ужо амаль ніхто не асмельваўся публічна заявіць аб адсутнасці нацыянальнай самасвядомасці ў самой прыродзе беларускага народа ці атаясамліваць яго з рускай нацыяй. Калі ж гэтыя дзеячы пачалі прызнаваць беларусаў за самабытны народ, заканамерным з'яўлялася стварэнне належных умоў для яго нармальнага нацыянальна-дзяржаўнага і сацыяльна-культурнага развіцця. І трэба сказаць, што ў гэтым напрамку сапраўды нямала рабілася па лініі партыі і ўрада. Яны прынялі шэраг важных пастаноў, ажыццяўленне якіх спрыяла нацыянальна-культурнаму Адраджэнню,

**(Працяг на 4-й стар.).**

СУГУЧЧА КУЛЬТУР. БЕЛАРУСЬ — УКРАІНА

## «...У ДОЛІ І НЯДОЛІ ІШЛІ РАЗАМ»



21 лютага ўвесь склад грамадскай камісіі "Вяртанне", створанай пры Беларускім фондзе культуры, прыняў удзел у адкрыцці цікавай выставы "У сугуччы культур. Беларусь — Украіна", арганізаванай Літаратурным музеем Янкі Купалы па ініцыятыве вядомага беларускага паэта і актыўнага збіральніка раскіданай па свеце беларускай спадчыны Сяргея Панізьніка. Гэта незвычайная выстава, бо яна прымеркавана да 90-годдзя першага беларускага замежнага музея, які быў створаны ў Львове (апошні ў той час знаходзіўся ў складзе Аўстра-Венгерскай імперыі). Па сутнасці гэта быў беларускі аддзел пры Нацыянальным музеі ў Львове, які арганізаваў у 1905 годзе Іларыён Сямёнавіч Свяціцкі (пазней пісалі Свянціцкі). Ён стаўся не толькі піянерам беларусістыкі на Украіне, але і ўвогуле адным з буйнейшых дзеячаў еўрапейскай беларусістыкі, хоць адначасна даследаваў славяназнаўства ўвогуле.

Яго прашчуры паходзяць з Беларусі, а нарадзіўся ён на Львоўшчыне ў 1876 годзе ў сям'і настаўніка. Відаць, гэтыя абставіны і паўплывалі на яго вялікую зацікаўленасць у збіранні помнікаў беларускай культуры. Акрамя таго, ён лічыў, што беларусы і ўкраінцы маюць бяспрыкладна супольны лёс у славянскім свеце. Гэтыя народы ніколі не ваявалі між сабою. Іх старажытнае царкоўнае мастацтва мае шмат агульнага з-за існавання на іх этнічных тэрыторыях з часоў Вялікага Княства Літоўскага агульнай уніяцкай царквы з 1596 года, якой не было ў Расійскай імперыі. Таму і збіраліся ў пачатку XX стагоддзя на Беларусі пераважна культавыя творы уніяцкай царквы, якая была забаронена царскімі ўладамі ў 1839 годзе. Уніяцкія цэрквы зачынілі, некато-

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

*ІКОНА ПАВІННА ВЫХОДЗІЦЬ ЗА ЧАЛАВЕЧЫЯ РАМКІ*

## АЛЯКСЕЙ ДЗМІТРЫЕЎ: «Я ЗВЕДАЎ ДАР БОЖЫ...»

Сёння Аляксей Дзмітрыеў — іканапісец. А яшчэ нядаўна быў мастаком. Гучыць дзіўна? Але так сцвярджае сам, хаця, здаецца, пэндзлем і першага, і другога кіруе аднолькавы душэўны парыў. Але Аляксей з такім сцвярджэннем не згодны. Ён упэўнены, што рухаючыя сілы ўсё ж такі адрозніваюцца: калі ў мастака назіраецца сапраўды душэўны імпульс, то ў іканапісца — духоўны, паміж якімі, як сцвярджае А. Дзмітрыеў, — бездань. Мастацтва, па меркаванню Аляксея, пралягае толькі ў чалавечых граніцах, у той час як ікона за гэтыя рамкі выходзіць.

Якім жа чынам малады мастак здолеў перамясціцца з аднаго стану ў другі?

— Мне была патрэбна цвёрдая апора ў жыцці і творчасці, — адказвае ён. Аляксей вельмі любіў мастацтва, захапляўся Пікасо і рэлігійнасці ніякім чынам не датыкаўся. Проста імкнуўся быць шчырым. Але адчуваў, што гэта чамусьці не атрымліваецца. У 1992-м годзе скончыў тэатральна-мастацкі інстытут. А праз некалькі месяцаў, як кажа сам, здабыў веру.

Да рашаючага крока Аляксея падштурхнуў сябра, з якім той паехаў у Кіева-Пячэрскую лаўру, дзе наведаў пячоры са святымі мошчамі. На трэці дзень малады чалавек адчуў тое, што ў веруючых людзей завецца Божым дарам...



І хаця да таго моманту Аляксей лічыў сябе проста мастаком, сваю першую ікону ён стварыў яшчэ будучы студэнтам. Гэтая ікона захавалася і, нягледзячы на тое, што сам аўтар лічыць работу не вельмі ўдалай, зараз кожны дзень ён моліцца менавіта на яе.

Увогуле ў іканапісе існуюць досыць акрэсленыя правілы: як маляваць, куды які класці колер. Але Аляксею гэта зусім не

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## ВЯЛІКАЯ НАРАДА ПРЭЗІДЭНТА





26 сакавіка ў Беларусі адбылася рэспубліканская селектарная нарада па пытаннях пасяўной кампаніі. Вёў яе Прэзідэнт А. Лукашэнка. З 10 гадзін раніцы радыё- і тэлеканалы ў Беларусі транслíравалі на ўсю дзяржаву вялікі сход, на якім трымалі справаздачу аб гатоўнасці да сяўбы начальнікі ўсіх рангаў ва ўсіх абласцях рэспублікі.

*УШАНАВАЛІ...*

## БЕСПАРАДКІ Ў СТАЛІЦЫ

79-ю гадавіну Акта 25 сакавіка, якім у 1918 годзе была абвешчана БНР, наважыліся ўшанаваць Беларускі народны фронт, прадстаўнікі апазіцыі, незалежных партый на гэты раз 23 сакавіка, у нядзелю. Дазвол на мітынг на плошчы імя Якуба Коласа мінскія гарадскія ўлады далі, а шэсце да месца мітынгу ад плошчы Незалежнасці забаранілі. Нягледзячы на гэта шэсце па праспекце імя Ф. Скарыны пад забароненымі прэзідэнцкім дэкрэтам бел-чырвона-белымі сцягамі адбылося.

Адбылося з бойкамі дэманстрантаў з міліцыяй. Як паведамляе карэспандэнт газеты "Звязда", самая масавая бойка адбылася каля плошчы Якуба Коласа, у выніку якой пацярпела некалькі міліцыянераў, у некалькіх машынах былі пабіты шыбы.

Падчас шэсця і пасля мітынгу міліцыя праводзіла арышты найбольш актыўных удзельнікаў забароненай маніфестацыі. Па афіцыйных звестках, быў арыштаваны 81 чалавек. Сярод затрыманых апынуўся і супрацоўнік амерыканскага пасольства Серж Аляксандраў.

Паводле інфармацыі МУС, ад дэманстрантаў пацярпелі 11 супрацоўнікаў міліцыі, 6 служачых унутраных войскаў.

Усяго ў мітынгу і шэсці прымала ўдзел, па афіцыйнай версіі, 2 тысячы чалавек, па даных БНФ — ад 5 да 7 тысяч.

*АФІЦЫЙНА*

## СЕРЖ АЛЯКСАНДРАЎ АБ'ЯЎЛЕНЫ ПЕРСОНАЙ НОН ГРАТА

У Мінску 23 сакавіка ў ходзе несанкцыяніраванага шэсця органамі аховы правапарадку за абуральныя дзеянні быў затрыманы супрацоўнік пасольства ЗША Серж Аляксандраў. Пасля высвятлення асобы, пацвярджэння яго дыпламатычнага статусу і ўдакладнення акалічнасцей С. Аляксандраў быў вызвалены. Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў аддзеле друку і інфармацыі Міністэрства замежных спраў рэспублікі.

"У сувязі з тым, што метады дзейнасці С. Аляксандрава выходзяць за рамкі Венскай канвенцыі 1961 года аб дыпламатычных зносінах, ён аб'яўлены персонай нон грата. Яму прапанавана пакінуць межы Рэспублікі Беларусь", — гаворыцца ў паведамленні Міністэрства замежных спраў.

• • •

Дзяржаўны дэпартамент ЗША накіраваў "строгае папярэджанне" беларускаму ўраду, у якім "Злучаныя Штаты выказваюць шкадаванне з нагоды неабгрунтаванага, зусім неапраўданага арышту, затрымання і выдварэння з краіны амерыканскага грамадзяніна Сержа Аляксандрава, першага сакратара пасольства ЗША ў Мінску". На думку Дзяржэпартамента ЗША, гэтыя крокі ўяўляюць сабой "яўнае парушэнне міжнародна прынятых прынцыпаў правоў чалавека, якія Беларусь, будучы членам АБСЕ, абавязана выконваць". "Дзейнічаючы ў рамках сваіх звычайных дыпламатычных абавязкаў, Аляксандраўназіраў за дэманстрацыяй пратэсту", — гаворыцца ў заяве.

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## НІЯКАЙ АНТЫАМЕРЫКАНСКАЙ НАКІРАВАНАСЦІ

24 сакавіка Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка прыняў Валерыя Цапкалу, назначанага паслом Рэспублікі Беларусь у ЗША і Мексіцы.

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў важнасць умацавання і пашырэння беларуска-амерыканскіх кантактаў на розных узроўнях. Ён адзначыў, што ў Беларусі разумеюць і правільна ацэньваюць ролю, якую адыгрываюць ЗША на сусветнай арэне.

Нам не хацелася б, сказаў Прэзідэнт, каб прыватныя выпадкі неапраўдана гіпертрафіраваліся і разглядаліся як нешта большае, чым яны ёсць на самай справе. Нягледзячы на падзеі апошніх дзён, было б зусім неправамерна весці размову аб якой-небудзь антыамерыканскай накіраванасці дзеянняў і палітыкі беларускага кіраўніцтва.

Аляксандр Лукашэнка асабліва адзначыў, што ў беларускага кіраўніцтва дастаткова палітычнай волі, каб нягледзячы ні на якія цяжкасці ісці наперад па шляху ўмацавання і развіцця супрацоўніцтва Беларусі і ЗША.

*ЗУБ ЗА ЗУБ*

## КЕНЕТ ЯЛАВІЦ АДКЛІКАНЫ

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Беларусі Кенет Ялавіц адкліканы ў Вашынгтон для кансультацый. Дата яго вяртання ў Мінск пакуль не вызначана. Пра гэта паведамілі з амерыканскага пасольства ў Беларусі.

Такую ж акцыю правялі і беларускія ўлады, адклікаўшы ў Мінск пасла Беларусі ў ЗША В. Цапкалу, які нават не паспеў даляцець да Вашынгтона.

У паведамленні, атрыманым у пасольстве, таксама гаворыцца, што выконваючы абавязкі прэс-сакратара Дзяржэпартамента ЗША Джон Дзінгер заявіў аб намеры амерыканскіх уладаў прыняць адэкватныя меры ў адказ на высылку з Беларусі Сержа Аляксандрава. Быў аб'яўлены персонай нон грата першы сакратар беларускага пасольства ў Вашынгтоне У. Грамыка. Цяпер, па словах Джона Дзінгера, "ЗША вывучаюць далейшыя крокі і не выключаюць іншых дзеянняў".

— Гэта не крызіс у нашых двухбаковых адносінах. Гэта нармальныя адносіны дзвюх дзяржаў, якія лічаць сябе раўнапраўнымі. Канешне, гэтыя падзеі могуць адбіцца на нашых адносінах на нейкі перыяд. Эмоцыі эмоцыямі, але я лічу, што ўзровень дыпламатычнага прадстаўніцтва будзе захаваны, — падкрэсліў у размове з карэспандэнтам "Звязды" начальнік галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Падгайны, — зразумела, што для Амерыкі Беларусь — невялікая краіна, але мы не будзем прыніжацца перад ёю.

*ПРЭЗЕНТАЦЫЯ*

## АДЗІНАЯ Ў САДРУЖНАСЦІ

Адбылася прэзентацыя 6 тамоў "Гісторыі беларускага мастацтва" Леаніда Дробава.

У краінах былога СНД гэта пакуль адзіная праца такога маштабу. Варта адзначыць, што калектыў аўтараў пад кіраўніцтвам прафесара і доктара мастацтвазнаўства Леаніда Дробава працаваў над ёю 20 гадоў. Першы том выйшаў у 1987 годзе, шосты — у 1994-м. У "Гісторыі" ахопліваюцца перыяды развіцця беларускага мастацтва ад старажытнасці і да нашых дзён.

*З ЛІТВЫ*

## УГОДКІ БНР

23 сакавіка Вільнюскі культурны цэнтр беларускай дыяспары наладзіў у Доме настаўнікаў літоўскай сталіцы вечар, прысвечаны 79-й гадавіне абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

На ім прысутнічала каля трохсот прадстаўнікоў беларускіх грамадскіх арганізацый. Перад імі выступілі лідэр БНФ Зянон Пазняк, экс-спікер Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч, віцэ-прэзідэнт АН Беларусі Радзім Гарэцкі. Прысутных вітаў першы намеснік старшыні сейма, адзін з лідэраў кансерватараў Літвы Андрус Кубіліюс.

*БЕЛАРУСКІ МОТАБОЛ*



Дзесяць гадоў у калгасе "Лунінскі" Лунінецкага раёна існуе свая мотабольная каманда "Ніва". Тут пабудаваны выдатны спартыўна-тэхнічны комплекс са стадыёнам, дзе можна праводзіць гульні самага высокага рангу. "Ніва" — пяціразовы чэмпіён Беларусі, у тым ліку і мінулага 1996 года, яе старшы трэнер Аляксандр Бабін адначасова і трэнер нацыянальнай зборнай каманды Беларусі па мотаболу. На мінулагоднім чэмпіянаце Еўропы беларуская мотабалісты занялі трэцяе месца, цяпер яны ўзмоцнена рыхтуюцца да новага чэмпіянату, які летам будзе праведзены ў Мінску.

НА ЗДЫМКУ: мотабольная каманда "Ніва".

*МАЗЫРСКІ МПЗ*



На Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе ўступіла ў строй устаноўка па вытворчасці высокаактанавага бензіну, здольная даваць у год 600—700 тысяч тон паліва маркі АІ-95. Пасля выхаду яе на праектную магутнасць у Мазыры можна будзе атрымліваць бензін і з больш высокім актанавым лікам — АІ-98 і вышэй. Цяпер спецыялісты, што называецца, "абкатваюць" устаноўку, атрымліваючы штосутачна да 1 900 тон высакаякаснага бензіну, які пастаўляецца пакуль толькі спажыўцам Беларусі.

НА ЗДЫМКУ: устаноўка па вытворчасці бензіну АІ-95 Мазырскага НПЗ.

*ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА*

## НОВЫ ПАСОЛ ІТАЛІІ Ў БЕЛАРУСІ

У Мінск з Рыма прыбыў Джавані Чэроці, які ўзначаліць пасольства Італьянскай Рэспублікі ў Беларусі.

Джавані Чэроці ўжо працаваў у дыпламатычных прадстаўніцтвах Італіі ў многіх краінах свету, аднак у якасці Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла ўпершыню будзе ажыццяўляць дыпламатычную дзейнасць у беларускай дзяржаве.

## АЛЯКСЕЙ ДЗМІТРЫЕЎ:

# «Я ЗВЕДАЎ ДАР БОЖЫ...»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

замінае. На карысць такіх "жорсткіх рамак" ён прыводзіць наступны аргумент: калі ваду нічым не абмяжоўваць, яна разліваецца лужынай, калі ж яе змясціць у вузкую пасудзіну, то ўзровень падымецца ўверх. Нешта накшталт таго, лічыць Аляксей, адбываецца і з так званай свабоднай творчасцю, якая ў выніку існуе толькі ў гарызантальнай плоскасці.

У сваёй працы Аляксей Дзмітрыеў няўхільна прытрымліваецца не толькі традыцыйных прыёмаў пісьма, але і класічнай для стварэння ікон тэхналогіі. Але тут ужо ўзнікае шэраг праблем. Вельмі цяжка знайсці належнае дрэва, якасны мел, клей жывёльнага паходжання. Ідэальная аснова для іконы — кіпарыс. Але тут ён вельмі дарагі. У Старажытнай Русі часцей пісалі на ліпе. Зараз у асноўным працуюць на сасне, радзей скарыстоўваюць вольху і елку. У прыватнасці, у Аляксея ў Вілейцы сохне распіленая ліпа — чакае свайго часу, бо дрэва для іканапісу павінна некалькі год "вылежвацца".

Вельмі дарагія зараз і фарбы. Сыравіну для іх закупляюць у Расіі ў геолагаў: дзвесце долараў кілаграм кінавары —



напаўпразрыстыя ружаватыя крышталі, пасля здраблення якіх атрымліваецца вогненна-чырвонае рэчыва. Таксама набываюць лазурыт, малахіт, іншыя паўкаштоўныя камяні... Каб атрымаць неабходныя колеры, усе гэтыя састаўныя часткі перамолваюцца, заціраюцца на яечным жаўтку. У выніку падрыхтоўчы перыяд цягнецца не меней двух тыдняў. А вось працэс непасрэднага пісьма можа ўкласціся і ў дзве гадзіны, кажа Аляксей, хаця, здараецца, зацягваецца і на месяцы. Дарэчы, так званага творчага спаборніцтва паміж іканапісцамі не існуе. Яны сустракаюцца, абмяркоўваюць нейкія тэхнічныя аспекты работы, але, як кажа Аляксей, духоўны ўзровень — толькі твой асабісты вопыт. Усялякая ікона адлюстроўвае глыбіню веры яе стваральніка, — падкрэслівае ён. А калі глядзіш на сучасныя падробкі пад XVIII, XIX стагоддзі, якіх сёння хапае, не бачыш галоўнага — абраза, на які хацелася б быць падобным. Яны не выклікаюць малітоўнага стану. На пытанне, як ён адносіцца да бясконцых пошукаў "сапраўднага" ліку Хрыста, Аляксей адказаў: "Тут няма чаго шукаць, дастаткова паглядзець на работы Рублёва ці іншыя добрыя старыя іконы".

Сёння на творчым рахунку іканапісца Аляксея Дзмітрыева каля дзвюх соцень ікон. Некаторыя з іх можна ўбачыць у кіёску Пятра-Паўлаўскага сабора, дзе Аляксей прымае ўдзел у стварэнні іканастаса. Ёсць заказы і ад прыватных асоб.



У паўсядзённым жыцці Аляксей лічыць сябе аскетам, які, па яго меркаванню, у той ці іншай меры павінен быць усякі праваслаўны чалавек. "Аскетызм, — кажа ён, — тыя вузкія вароты, праз якія толькі і можна ўвайсці ў царства нябеснае. Шырокія ж вароты, самі ведаеце, куды вядуць..."

Г. БРАТКО.

НА ЗДЫМКАХ: іконы, выкананыя Аляксеем ДЗМІТРЫЕВЫМ.

## ПЕРШЫ СХОД АМАТАРАЎ АСТРАНОМІІ БЕЛАРУСІ

У сталічным Рэспубліканскім цэнтры тэхнічнай творчасці навучэнцаў на свой з'езд нядаўна сабраліся аматары такой рэдкай навукі, як астраномія. На пасяджэннях узнімалася пытанне аб стварэнні Беларускага таварыства аматараў астраноміі, бо фактычна падобнае аб'яднанне ў краіне існуе і плённа працуе ўжо даволі даўно, яшчэ з часоў Усесаюзнай астранома-геадэзічнай карпарацыі ў колішнім СССР. Было вырашана: неабходна мець юрыдычна абгрунтаваны статут, які ахопіць усе пытанні ды праблемы, усё раскладзе па палічках, — своеасаблівы збор законаў і правілаў будучага таварыства.

Дырэктар Мінскага планетарыя выказала думку наконт арганізацыі клуба астранамічнага кірунку як маладзёжнага клуба. Аднак і ў першым, і ў другім выпадку даводзіцца наракаць, што пакуль для беларускіх астраномаў неадольным бар'ерам з'яўляецца адсутнасць хоць нейкіх грошай на юрыдычнае вырашэнне пытання і пачатак дзейнасці гэтак жаданага астранамічнага таварыства ў Беларусі.

На другі дзень разглядалі арганізацыйныя пытанні найбольш актыўнай групы назіральнікаў камет, заслухалі даклады групы назіральнікаў пераменных зорак "Бетэльгейзэ" і суполкі назіральнікаў метэораў, а таксама прамову віцебскага выкладчыка астраноміі У. Голубева пра пошук новых камет і прапанову дырэктара абсерваторыі БДУ А. Кузнечыка пра даследаванне аматарамі астраноміі сонечна-зямных сувязей і астраклімату Рэспублікі Беларусь. Быў таксама зачытаны ліст-зварот да ўдзельнікаў з'езда шчырага прыхільніка астраноміі Уладзіміра Собалева з Лёзна, які заклікаў да настойлівай шматаспектнай працы для пашырэння астранамічных ведаў сярод насельніцтва рэспублікі, да стварэння дужа неабходнай адпаведнай літаратуры на прафесійным узроўні для ўсіх узроставых груп школьнікаў, мастацкай літаратуры касміча-астранамічнай тэматыкі.

Астраномы-энтузіясты, якія сабраліся на першы сход такога кшталту, былі ўсцешаны папаўненнем сваіх шэрагаў новымі сябрамі, але і выказалі засмучэнне тым, што і па сённяшні дзень у нас у рэспубліцы афіцыйна няма такой спецыяльнасці, прафесіі, як астраном. Ці не дзіўна гэта напярэдадні трэцяга тысячагоддзя?

Ян КОРАНЬ.

## ПАКІДАЮЦЬ ДЗЯЎЧАТЫ РАДЗІМУ...

У апошні час усё больш беларускіх дзяўчат аддаюць "руку і сэрца" грамадзянам з замежжа. Як паведамілі ў мінскім Палацы шлюбаў, у заключэнні такіх саюзаў назіраецца значны рост. З кожным годам колькасць іх павялічваецца прыкладна на 20 пар. Толькі за мінулы 1996 год у Мінску быў зарэгістраваны 251 інтэрнацыянальны шлюб. Іншаземцы з 47 дзяржаў свету знайшлі сваё "паловы" сярод беларускіх дзяўчат. Апошнія ж у сваёй большасці аддаюць перавагу жаніхам з Германіі і Ізраіля — адпаведна 23 і 21 шлюбы. Замыкаюць гэту "тройку лідэрства" Злучаныя Штаты — 14 шлюбаў. У пашане і хлопцы з краін арабскага свету.

Так, для прыкладу, 12 нашых жанчын выбралі ў спадарожнікі жыцця пакістанцаў, яшчэ столькі ж — сірыйцаў і г. д. Значна меншай папулярнасцю карыстаюцца прадстаўнікі Афрыканскага кантынента: 2 шлюбы з эфіопцамі, 1 з гвінейцам...

Амаль усе пары ў хуткім часе пасля заключэння шлюбу пакідаюць межы рэспублікі. А калі ўлічыць, што іншаземцы, як правіла, вызначаюцца добрым густам і большасць нявест — прывабныя, сур'ёзныя і адукаваныя дзяўчаты, то ці не атрымліваецца, што Беларусь пакідаюць сёння лепшыя прадстаўніцы нашай нацыі?

Святлана ШАБЛІНСКАЯ.

## «МЫ СУПРАЦЬ СНІДу І НАРКАМАНІІ»

Пад такім заклікам 1 сакавіка 1997 года першы дзень вясны ў сталіцы Рэспублікі Беларусь у канцэртнай зале "Мінск" прайшоў канцэрт маладых рок-музыкантаў. Гэта была акцыя пратэсту супраць наркаманіі і СНІДу, якія, на жаль, не абышлі і Беларусь. Асабліва востра гэтая праблема паўстала апошнім часам, калі ў некаторых месцах краіны СНІД і наркаманія набываюць размах сапраўднага бедства.

У канцэрце ўдзельнічала 10 маладзёжных рок-груп, перад пачаткам канцэрта праводзіўся конкурс мастацкіх твораў супраць наркаманіі. У асобнай зале былі выстаўлены карціны і работы мастакоў, непрафесіяналаў, людзей, якія пацярпелі ці пакутуюць ад такой страшнай хваробы, як наркаманія. Бяда сама нікуды не знікне, з ёю трэба змагацца, лічаць удзельнікі акцыі.

Ян КОРАНЬ.

## *ТЭХНІЧНАЯ І МАСТАЦКАЯ ТВОРЧАСЦЬ ДЗЯЦЕЙ*





Рэспубліканскаму Дому тэхнічнай і мастацкай творчасці вучнёўскай моладзі спаўняецца 25 гадоў. Сёння тут працуе 330 гурткоў, якія наведвае каля 4 000 дзяцей. Узрост іх самы розны, пачынаючы ад вучняў малодшых класаў, канчаючы студэнтамі ВНУ.

Акрамя таго, тут аказваецца метадычная і практычная дапамога больш чым 2 000 гурткам, якія працуюць у прафтэхвучылішчах і сярэдніх навучальных установах Беларусі, дзе навучаецца больш за 30 тысяч навучэнцаў.

На базе Дома творчасці штогод праводзяцца выставы тэхнічнай і мастацкай творчасці, а таксама рэспубліканскія злёты юных рацыяналізатараў і вынаходнікаў.

НА ЗДЫМКАХ: у гуртку самалётабудавання ствараецца чарговы звышлёгкі лятальны апарат, які ўжо ў маі ўзнімецца ў паветра; з задавальненнем займаецца ў ганчарным гуртку 12-гадовы Лёша УШКО.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ.

(Працяг.
Пачатак на 1-й стар.).

садзейнічала станоўчаму вырашэнню гэтай гістарычнай па сваім значэнні праблемы.

Аднак практыка ўсё больш і больш пераконвала, што па-сапраўднаму адрадзіць, паставіць беларускі край на трывалы нацыянальны грунт можна толькі тады, калі гэта з'явіцца альфай і амегай усёй дзейнасці самой дзяржавы. Працяглая і жорсткая асіміляцыя беларускага народа, якую стагоддзямі праводзілі шавіністычна настроеныя ўрады Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, давялі яго да такога гаротнага стану, з якога нельга выйсці толькі праз ажыццяўленне нейкіх палавінчатых захадаў. Патрэбна была стройная, навукова распрацаваная дзяржаўная праграма па вывадзе беларускага народа з нацыянальнага занядаду, выкананне якой стала б задачай нумар адзін для ўсіх структур улады, для ўсяго грамадства.

планаваму ажыццяўленню беларусізацыі як дзяржаўнай палітыкі. Беларусізацыю апаратаў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Савета Народных Камісараў БССР, Наркамасветы і Наркамземляробства рэспублікі планавалася завяршыць за адзін год, Наркаматаў унутраных спраў, юстыцыі, сацыяльнага забеспячэння, пошты і тэлеграфа — за два, а ўсіх астатніх устаноў і арганізацый — за тры гады. Звяртае на сябе ўвагу, што на правым флангу беларусізацыі знаходзіліся самыя аўтарытэтныя, галоўныя органы ўлады Савецкай Беларусі, паказваючы гэтым прыклад іншым наркаматам і ўстановам.

Велізарная заслуга ў распрацоўцы і ажыццяўленні звязаных з беларусізацыяй мерапрыемстваў і праведзенні іх у жыццё нележала верным сынам беларускага народа — старшыні ЦВК БССР А. Чарвякову і старшыні СНК БССР Я. Адамовічу. Добра разумелі і ва ўсім садзейнічалі задавальненню карэнных асноўным звяном у ёй пленум прызнаў беларускую мову, запісаўшы ў сваіх рэзалюцыях: "Бюро ЦК і акругкомам распрацаваць мерапрыемствы аб вывучэнні беларускай мовы ўсёй партарганізацыяй. Уся КП(б)Б павінна гаварыць на беларускай мове". Сваю пазіцыю ў адносінах да апошняй пленум так растлумачыў народу: "Пры раўнапраўі ўсіх нацыянальнасцей, пры абавязку з боку ўраду і партыі забеспячэння развіцця культуры кожнай з іх, пры прызнанні дзяржаўнымі мовамі 4-х (маюцца на ўвазе беларуская, руская, яўрэйская і польская. — **Л. Л.**) — пры ўсім гэтым, аднак, справа развіцця мовы, літаратуры, школы, усёй культуры на беларускай мове прызнаецца першай і асноўнай справай". І гэта добра зразумела, бо ў той час, як і цяпер, абсалютную большасць насельніцтва рэспублікі складалі беларусы.

У якасці яшчэ аднаго прыкладу свядомага, мэтанакіраванага рэгулявання з боку партыі пытанняў моўнай палітыкі

# БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ: УЗЛЁТ І ПРАВАЛ

**«УСЯ КП(б)Б ПАВІННА ГАВАРЫЦЬ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ»**

І такая праграма з'явілася на свет, атрымаўшы назву "Беларусізацыя". Яе асноўным нарматыўным актам стала прынятая 15 ліпеня 1924 года Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам (ЦВК) пастанова "Аб практычных мерапрыемствах па праведзенні нацыянальнай палітыкі". У адпаведнасці з ёю галоўнымі складаемымі беларусізацыі лічыліся: па-першае, арганізацыя школ і вышэйшых навучальных устаноў на беларускай мове, развіццё беларускай літаратуры, выданне беларускіх кніг, навукова-даследчая праца па ўсебаковым вывучэнні Беларусі і г. д.; па-другое, вылучэнне беларусаў на партыйную, савецкую, прафсаюзную і грамадскую работу; па-трэцяе, перавод партыйнага, дзяржаўнага, прафсаюзнага, кааператыўнага апаратаў і часцей Чырвонай Арміі, што дыслацыраваліся на тэрыторыі рэспублікі, на беларускую мову.

Так маштабна і канкрэтна паставіць палітыку беларусізацыі на практычную плоскасць ЦВК БССР адважыўся толькі таму, што ўжо пад гэты час меўся пэўны пазітыўны вопыт у арганізацыі жыцця беларусаў на сапраўдным нацыянальным грунце, адначасова, наданні прыярытэту прагрэсіўным народным традыцыям.

Як станоўчае трэба адзначыць, што ў сэнсе развязвання беларускага пытання ў поглядах ЦВК БССР і ЦК КП(б)Б не існавала якіх-небудзь сур'ёзных разыходжанняў. Незадоўга да абвяшчэння беларусізацыі афіцыйнай палітыкай партыя зрабіла нямала па мабілізацыі сваіх арганізацый на вырашэнне нацыянальнага пытання ў БССР. Так, на XII Усебеларускай партыйнай канферэнцыі (VII з'езд КП(б)Б), якая праходзіла ў сакавіку 1923 года, было заяўлена, што партыя павінна ўзяць на сябе актыўнае кіраўніцтва ў цэнтры і на перыферыі ўсёй працай, з тым каб забяспечыць няўхільнае ўкараненне мясцовых моваў. Справядліва зазначалася, што цяжкасці на гэтым шляху будуць надзвычай сур'ёзнымі, бо за шмат гадоў русіфікацыі нават у некаторай часткі саміх сялян-беларусаў сфарміраваліся непрыязныя адносіны да сваёй мовы як да мужыцкай, бо ў родным краі яна не карысталася ніякімі правамі, жыла толькі ў фальклоры ды ў сем'ях. Прапаноўвалася ўсё гэта ўлічваць у растлумачальнай працы з масамі, абгрунтавана даводзячы ім аб ролі нацыянальных моваў у духоўным развіцці народаў.

Нягледзячы на цяжкае эканамічнае становішча, недахоп кадраў інтэлігенцыі, некаторыя хістанні людзей у адносінах да сваёй роднай мовы, рэспубліка з кожным месяцам станавілася ўсё больш падрыхтаванай аб'ектыўна і суб'ектыўна да ўкаранення беларускай мовы ў самыя важныя сферы дзейнасці чалавека. З улікам усяго гэтага згаданая вышэй сесія ЦВК БССР дакладна вызначыла і абвясціла даволі сціслыя тэрміны пераводу справаводства на беларускую мову, чым і былі пакладзены пачатак інтарэсаў беларускага народа першыя сакратары ЦК КП(б)Б А. Асаткін-Уладзімірскі (май-жнівень 1924), ураджэнец Кастрамскога павета, А. Крыніцкі (верасень 1924 — май 1927), ураджэнец г. Цвер.

Прынятыя другой сесіяй ЦВК БССР дакументы здзіўляюць глыбокім пранікненнем, спакойным і разумным падыходам да самых складаных пытанняў міжнацыянальных адносін. Цяпер ужо да дробязей было вядома кожнаму рэспубліканскаму наркамату і ведамству, акруговым выканаўчым камітэтам, паасобным прадпрыемствам і арганізацыям, што, калі і як рабіць, каб адчуваліся практычныя зрухі ў ажыццяўленні беларусізацыі. Зусім правільна, што яе аніяк не абмяжоўвалі толькі навучальнымі ўстановамі Наркамасветы, як гэта мы сёння ўсё яшчэ робім, канцэнтруючы ўвагу пры адраджэнні беларускай мовы амаль выключна толькі на такіх установах, прычым і з ліку апошніх выбіраем не больш, як агульнаадукацыйную школу. Не трэба забывацца, што ва ўсіх народаў і на ўсіх этапах гісторыі школа заўжды з'яўлялася люстэркам грамадства, працавала на той мове, якая была афіцыйнай у той ці іншай дзяржаве. Мы толькі тады зробім сваю агульнаадукацыйную школу беларускай, калі беларуская мова зойме належнае ёй месца ва ўсіх сферах дзяржаўнага, партыйнага, эканамічнага і грамадскага жыцця рэспублікі. Гэта ў працівагу многім сучасным палітыкам, кіраўнікам вельмі добра ўсведамлялі тыя, хто стаяў ля стырна Савецкай улады ў 20-я гады, і таму без усялякіх ваганняў пачалі паход за беларусізацыю не знізу, а зверху, г. зн. ад саміх сябе. Менавіта таму для апаратаў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта, Савета Народных Камісараў БССР і былі вызначаны самыя сціслыя тэрміны беларусізацыі. І яны вытрымліваліся на практыцы, што служыла добрым прыкладам для ўсіх падначаленых рэспубліканскім заканадаўчым і выканаўчым органам наркаматаў і ведамстваў, а праз іх для калектываў кожнага канкрэтнага прадпрыемства і ўстановы.

Пасля таго, як другая сесія ЦВК БССР аб'явіла беларусізацыю дзяржаўнай палітыкай, шэраг важных мерапрыемстваў ажыццявілі рэспубліканскія і акруговыя партыйныя, прафсаюзныя і камсамольскія органы, адміністрацыйна-гаспадарчы апарат наркаматаў і ведамстваў, паасобных прадпрыемстваў і арганізацый. У першую чаргу трэба назваць студзеньскі (1925) пленум ЦК КП(б)Б, галоўным пытаннем якога былі "Чарговыя задачы КП(б)Б у нацыянальнай палітыцы". Народ справядліва чакаў ад партыі канкрэтнага адказу, што трэба рабіць, каб у рэспубліцы няўхільна праводзілася лінія на раўнапраўнае развіццё ўсіх нацый, спадзяваўся, верыў, што, дзякуючы ўдумліваму, цвярозаму падыходу, яна вырашыць даволі складанае ва ўмовах Беларусі нацыянальнае пытанне. І ў гэтым народ не памыляўся. Што датычыць непасрэдна справы беларусізацыі, дык можна спаслацца і на рэзалюцыі кастрычніцкага (1926) Пленума ЦК КП(б)Б. Пунктам 8 прынятых на ім рэзалюцый Бюро ЦК абавязвалася "даць цвёрдую дырэктыву кіраўнікам устаноў аб уводзе планавасці і сістэмы ў працы па пераводзе апаратаў устаноў на беларускую мову. Нацкамісія ЦВК, а таксама ЦКК і РСІ павінны ажыццяўляць строгі і сталы нагляд за дакладным выкананнем гэтай дырэктывы". У 18 пункце рэзалюцый прызнавалася неабходным усю працу партыйнага і камсамольскага апаратаў перавесці да 1 студзеня 1927 года на беларускую мову". Можа каму-небудзь сёння гэта падасца дыктатам, голым адміністраваннем, але так думаць няма падстаў, бо справа датычыла не асабістага, а грамадскага жыцця, выбар мовы для абслугоўвання якога ва ўсіх цывілізаваных краінах быў і цяпер знаходзіцца ў кампетэнцыі адпаведных дзяржаўных органаў, якія, карыстаючыся данымі навуковай думкі, практычнага вопыту, даводзяць да ведама свайго народа дакладную праграму моўнага развіцця не толькі на бліжэйшую, але і на самую далёкую перспектыву і з цвёрдай апорай на грамадскасць няўхільна праводзяць яе ў жыццё.

Высоўванне ўрадам і партыяй рэспублікі ў сваёй нацыянальнай палітыцы на першае месца беларускага пытання не выклікала якіх-небудзь пярэчанняў у прадстаўнікоў ніводнай нацыянальнасці, калі не лічыць найбольш заядлых працаўнікоў беларусізацыі, не выключаючы сярод іх і саміх беларусаў. Між іншым і нашы сённяшнія першачарговыя, абвостраныя клопаты аб лёсе беларускай мовы таксама сёй-той сустракае з вялікай асцярогай і папярэджвае: "Не ўздумайце надаць ёй якую-небудзь прэстыжнасць!" Нацыянальна свядомыя беларусы ўсяго толькі рупяцца аб выратаванні роднай мовы, а тут ужо раздаюцца галасы аб недапушчэнні яе прэстыжнасці. Да прэстыжнасці яшчэ і кроку не зроблена. А калі падысці да справы і сапраўды з інтэрнацыяналісцкіх пазіцый, дык нельга той ці іншай нацыянальнай мове не надаць прэстыжнасці ў рэгіёне кампактнага пражывання яе носьбітаў і асабліва тады, калі гэты рэгіён уяўляе сабой суверэннае дзяржаўнае фарміраванне, з'яўляецца адзіным у сваім родзе, дзе гэтая мова функцыянуе. Ці ж будзе адступленнем ад разумнай нацыянальнай палітыкі, калі, скажам, мы ў сябе ў рэспубліцы сёння нададзім беларускай мове больш шырокія рамкі выкарыстання ў параўнанні з тымі функцыямі, што выконвае ці будзе выконваць тут руская мова, асноўнай тэрыторыяй функцыянавання якой з'яўляецца Расійская Федэрацыя. Па аб'ёму выконваемых сацыяльных функцый мова пераважнай большасці насельніцтва любой краіны, у тым ліку і Беларусі, павінна быць на першым месцы, адсюль і карыстацца пэўнай прэстыжнасцю, што зусім не ўшчымлівае інтарэсаў нацыянальных меншасцей.

Леанід ЛЫЧ.

(Працяг будзе).

СУСТРЭЧА Ў ТАЛЬКАЎСКАЙ ШКОЛЕ

## УШАНОЎВАЮЧЫ ПАМЯЦЬ АЛЯКСАНДРА КАПУСЦІНА

Пухавіцкая зямля багатая на літаратурныя імёны. Міхась Чарот, Уладзімір Хадыка, Макар Паслядовіч... З сучаснікаў — Таіса Бондар, Алесь Пісарык, Вольга Савасцюк. Але ёсць яшчэ пісьменнікі, хто, нарадзіўшыся ў іншай старане, абраў Пухаўшчыну ў любімае месца адпачынку. Падоўгу жыў у пухавіцкіх вёсках Якуб Колас. Мелі свае лецішчы тут Янка Маўр, Пятрусь Броўка. Паблізу чыгуначнай станцыі Талька ў вёсцы Весялова праводзіў свае адпачынкі і Аляксандр Капусцін, пісьменнік-франтавік. Яшчэ ў 1982 годзе разам з жонкай Эміліяй Іванаўнай набылі яны тут хату. Летась Аляксандр Пятровіч памёр.

Але не забываюцца пра яго на Пухаўшчыне. Пацвярджэнне таму — і нядаўняя сустрэча, што адбылася ў Талькаўскай сярэдняй школе. Да вучняў і настаўнікаў прыйшлі ўдава Аляксандра Капусціна — Эмілія Іванаўна і літаратуразнаўца Алесь Марціновіч, які доўгі час працаваў разам з пісьменнікам, сябраваў з ім. Расказаўшы пра жыццёвыя шляхі-дарогі Аляксандра Капусціна, госці падаравалі Талькаўскай школе невялікую бібліятэчку. Хацелася б, каб гэтая сустрэча паклала пачатак сур'ёзнаму знаёмству талькаўскіх школьнікаў з літаратурнай біяграфіяй Пухаўшчыны.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## «LUX AETERNA» Ў ГДАНЬСКУ

**Незвычайная падзея адбылася ў філармоніі Гданьска. Упершыню за тысячагадовую гісторыю горада тут быў выкананы твор беларускага аўтара. Акрамя таго, гэта было першае публічнае выкананне данага твора.**

**Выхаванец Беларускай акадэміі музыкі ў класе Ігара Лучанка і Дзмітрыя Смольскага кампазітар Яўген Паплаўскі прысвяціў сваю сімфонію "Люкс аетэрна" тысячагадоваму юбілею Гданьска, які ўрачыста адзначаецца сёлета. Сімфонію для аркестра, хору і тэнара выканалі сімфанічны аркестр Балтыйскай дзяржаўнай філармоніі ў Гданьску, акадэмічны хор Гданьскага універсітэта, камерны хор музычнай акадэміі і тэнар Пётр Кусевіч. Тэкставая частка сімфоніі прагучала на беларускай мове. Публіка і прэса высока ацанілі твор, аўтар якога таксама прысутнічаў на канцэрце.**

**Як падкрэсліў у гутарцы з карэспандэнтам дырэктар Балтыйскай філармоніі Раман Пярыцкі, гэта падзея неардынарная і для Гданьска, бо ў пярэдадзень юбілею горада сімфонія Яўгена Паплаўскага была першым замежным творам, прысвечаным юбілею.**



**Многія ў Віцебску добра ведаюць загадчыка хірургічнага аддзялення мясцовай чыгуначнай бальніцы, кандыдата медыцынскіх навук Уладзіміра Паўлава. Звыш 30 гадоў робіць ён хірургічныя аперацыі ў галіне тазасцегнавога сустава, пазваночніка. Дзесяткі безнадзейных хворых прыязджаюць сюды на інвалідных калясках, а выходзяць самастойна.**

**Кабінет Уладзіміра Васільевіча больш нагадвае слясарную майстэрню, таму што любая падобная аперацыя патрабуе не толькі прафесійнага майстэрства, але і ўмення рабіць матэматычныя разлікі, добрага валодання слясарнымі і такарнымі інструментамі. Вядома, штодзённыя шматгадзінныя аперацыі моцна стамляюць хірурга, але сваю стомленасць ён пераадольвае з дапамогай добрай фізічнай падрыхтоўкі. Хірург плавае, ездзіць на веласіпедзе, захапляецца рыбалкай. Усё гэта забяспечвае яму высокую працаздольнасць.**

**НА ЗДЫМКУ: хірург Уладзімір ПАЎЛАЎ.**

**Фота Уладзіслава БАСЬКО.**

*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

# ПРАМЕНЬ НАДЗЕІ

Сёння нам, беларусам замежжа, нялёгка весці культурна-асветную работу. Калі ў першыя гады незалежнай Беларусі (1991—1994) нам старалася дапамагчы і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", і Міністэрства асветы Беларусі, і Навукова-педагагічная бібліятэка Міністэрства асветы Рэспублікі Беларусь, то, пачынаючы з восені 1995 года, абарвалася ўсялякая сувязь як з Міністэрствам асветы, так і з яе Навукова-педагагічнай бібліятэкай, якія дапамагалі нам вучэбнай і метадычнай літаратурай, падручнікамі, беларускамоўнай прэсай. Што тычыцца ЗБС "Бацькаўшчына", то яе магчымасці ў гэтым і раней, у больш спрыяльных часы, былі абмежаваныя бракам коштаў, але ўсё ж і адтуль даходзілі часам газеты і часопісы, а пры нагодзе знаходжання ў Мінску можна было прыйсці ў сядзібу "Бацькаўшчыны" і адабраць хоць некалькі новых выданняў мастацкай літаратуры для папаўнення бібліятэкі гурта беларускай культуры "Зорка Венера", які дзейнічае ў правінцыйным горадзе Ізяслаў ад 1985 года...

...Я ўжо было змірыўся з такім вось становішчам, калі намі працягвала апекавацца толькі рэдакцыя газеты "Голас Радзімы", і з яе старонак мае выхаванцы даведваліся і працягваюць даведвацца й сёння пра падзеі ў Беларусі, пра яе слаўную гісторыю, яе выдатных дачок і сыноў мінулага, матэрыялы пра якіх пастаянна друкуе тыднёвік. І раптам атрымліваю канверт са зваротным адрасам: Мінск, Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь... Майму здзіўленню не было канца, пакуль не распячатаў канверт і не ўбачыў ліст дырэктара РЦНК спадара Віктара Мацюшэнкі. З ліста я даведаўся, што ў "Рэспубліцы Беларусь з 1994 года дзейнічае Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур, дзейнасць якога скіравана на адраджэнне нацыянальных культур Беларусі. З 1996 года РЦНК супрацоўнічае з таварыствамі беларускай культуры замежжа". Я не мог паверыць у напісанае, падумаў, што гэта нейкі недарэчны розыгрыш, але ж ліст прыйшоў у снежні, а не 1красавіка! Адказаў на пытанні, якія мне, кіраўніку гурта беларускай культуры "Зорка Венера", былі зададзены ў лісце і адправіў ліст у Мінск 12 снежня...

...І вось сёння, 25 лютага, атрымаў з РЦНК бандэроль з нотна-метадычнай літаратурай, якой, дарэчы, у нас не было! Гэта "Беларускія народныя полькі" Ларысы Алексютовіч, зборнік п'ес для дзяцей "Сінязорка", дапаможнік па ручному ўзорнаму ткацтву "Возрождение ремесла" (па-расейску), аж два зборнікі песень на словы народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча: "Пад родным небам" (музыка Э. Зарыцкага) і "Жаўраначка" (музыка У. Алоўнікава, І. Лучанка, Э. Ханка, У. Будніка, А. Чыркуна, Э. Зарыцкага, Л. Захлеўнага, Б. Сацуры), беларуская народныя песні ў апрацоўцы М. Сіраты "Вясялушкі", танцавальная музыка Беларусі "Гармоніка чаруючыя гукі", хрэстаматыя па духоўнай харавой музыцы "Нова радасць стала", альбом музыкі Беларусі XVI— XVII стагоддзяў "Помнікі музычнай культуры Беларусі" (выпуск 2-гі), папулярна-гістарычныя аповяды А. Краўцэвіча "Тэўтонскі ордэн: ад Ерусаліма да Грунвальда".

Як кажуць, няма слоў для выказвання радасці за дасланы падарунак, і ўсё ж я ад усяго сэрца хачу падзякаваць намесніку дырэктара РЦНК спадарыні Любові Балаўнёвай за цудоўны падарунак, які спадарыня Любоў даслала нашаму гурту беларускай культуры: менавіта вось такой метадычнай літаратуры нам і не хапала ў нашай дзейнасці! З дапамогай дасланых дапаможнікаў мы зараз зможам ставіць танцы, развучваць песні, а са зборніка п'ес "Сінязорка" мы ўжо выбралі для пастаноўкі п'есу Людмілы Рублеўскай "Янук, рыцар Мятлушкі" (п'еса-казка ў 3-х дзеях вельмі мне спадабалася, і я не прачытаў дзецям, якія з энтузіязмам прагаласавалі за яе пастаноўку). Так што ў нас з'явіўся новы прамень надзеі, які заззяў з Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур, што месціцца ў Мінску, па вуліцы Янкі Купалы, 21. Дзякуй яшчэ раз тым, хто яго для нас "запаліў", не даючы памерці нашай беларускасці ў замежжы...

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг, кіраўнік гурта беларускай культуры "Зорка Венера",**
Украіна,
г. Ізяслаў.

ВЫЙШЛА Ў ПОЛЬШЧЫ

# НАПІСАНА ПРА СЛОНІМ




Пра Слонім напісана мала. За апошнія пяцьдзесят гадоў у Беларусі з друку выйшлі толькі некалькі кніг. Але і гэтыя выданні асаблівай каштоўнасці не ўяўляюць, за выключэннем хіба кнігі Валянціны Караткевіч і Анатоля Кулагіна "Помнікі Слоніма" (Мн., 1983 г.). Цікавым таксама атрымаўся буклет Уладзіміра Чантурыя "Архітэктурныя помнікі Слоніма", які выйшаў з друку ў 1984 годзе.

Гэта — пра помнікі Слоніма. А што датычыць гісторыі старажытнага горада над Шчарай, дык і тут пахваліцца няма чым. Першым у пасляваенныя гады выдаў гістарычны нарыс пра Слонім Васіль Мялешка. Кніга яго так і называецца "Слоним" (Мн., 1962 г.). Кволенькае выданне з памылковымі датамі і прозвішчамі сёння амаль страціла сваю каштоўнасць. Ды й аўтар яго больш спыніўся на ўстанаўленні савецкай улады на Слонімшчыне, пакідаючы па-за старонкамі праўдзівую гісторыю горада і раёна. Тое самае можна сказаць і пра кнігу "Слоним" (Мн., 1981 г.) М. Рылко і І. Шпырковай. Але яна больш цікавая, чым папярэдняя.

Тры гады назад Васіль Супрун выдаў кнігу даследаванняў і меркаванняў "За смугою часу". Сярод археалагічных матэрыялаў ёсць у кнізе і штрыхі з мінулага Слонімшчыны. Лічу, што аўтар сабраў найкаштоўнейшыя звесткі і па-свойму карысна і цікава разгледзеў гістарычныя шляхі зямлі слонімскай. Але, на жаль, гэта не асобная кніга, якая прысвечана Слоніму, а толькі пэўныя раздзелы з кнігі.

Значную ролю ў гісторыі Слоніма адыграў Міхал Казімір Агінскі і яго тэатр. Вялікая манаграфія, прысвечаная тэатру Агінскага, выйшла з друку ў 1961 годзе ў Кёльне на нямецкай мове. Аўтар манаграфіі — Анджэй Цеханавецкі. У перакладзе Уладзіміра Сакалоўскага (нарадзіўся ў вёсцы Мялькановічы Слонімскага раёна) гэтае выданне пабачыла свет і ў Мінску ў 1993 годзе. "Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме" — так яна называецца.

І ўсё ж гэтых выданняў за пасляваенны час пра старажытны Слонім малавата. Хачу сказаць, што пра наш горад больш было напісана і выдадзена да другой сусветнай вайны. Кнігі, брашуры, паштоўкі выдаваліся на польскай, рускай, беларускай і нямецкай мовах. Дарэчы, за апошнія пяцьдзесят пяць гадоў пра Слонім у Беларусі выйшла з друку толькі адна паштоўка. Гэта жахліва! Затое ў канцы мінулага стагоддзя, у пачатку гэтага і ў 20—30-х гадах пра Слонім напісалі шмат, выдаваліся паштоўкі, буклеты, геаграфічныя карты і г. д. Вось спіс некаторых кніг пра Слонім, на які, дарэчы, абапіраюцца сучасныя гісторыкі, што даследуюць гісторыю горада над Шчарай: Романовский И. "Положение города Слонима в Литовском государстве" (Гродна, 1895 г.), Милаковский М. "Описание города Слонима" (Гродна, 1891 г.), Aleksandrowicz B. "Z przeszlosci Slonima i ziemi slonimskiej" (Слонім, 1935 г.), Lorentz St. "Wycieczki slonimskie" (Слонім, 1933 г.) і іншыя.

Але пра наш Слонім усё ж памятаюць і выдаюць добрыя кнігі і паштоўкі нашы землякі ў Ізраілі, Італіі і Польшчы. У канцы мінулага года, напрыклад, прыйшла прыемная вестка з суседняй дзяржавы, што былы слонімец Тадэвуш Сасіньскі выдаў у Польшчы на польскай мове цудоўную кнігу "Slonim". Нядаўна я атрымаў яе ў падарунак ад былой сланімчанкі з Торуня пані Марыі Згаржэльскай. Прачытаў з вялікім задавальненнем. Кніга па-свойму арыгінальная, шчырая, фактаграфічная і багатая на ілюстрацыі. Я, як беларус са Слоніма, і аўтар Тадэвуш Сасіньскі, як слонімец з Польшчы, можам шмат спрачацца наконт зместу кнігі. Але аб'ядноўвадь нас будзе адно — наша маленькая радзіма Слонім, якую мы любім і шануем у памяці і сэрцы, якою ганарымся.

Кніга нашага земляка ці не самае значнае выданне пра гісторыю старажытнага горада. Вялікая ўвага ў ёй надаецца нялёгкаму лёсу палякаў-слонімцаў, якіх, як і ўсіх жыхароў Слоніма, турбавалі войны 1914—1920 гадоў, 1939 года, дэпартацыя 1940—1941 гадоў, нямецка-савецкая вайна 1941 года, нямецкая акупацыя 1941—1944 гадоў, сталінскія рэпрэсіі. У агні быў і сам горад, яго архітэктурныя помнікі, старыя вуліцы і завулкі.

З цікавасцю чытаюцца раздзелы пра слонімскіх яўрэяў і татараў, пра іх трагічнае жыццё ў гады апошняй вайны.

Упершыню ў гэтай кнізе мне ўдалося прачытаць пра дзейнасць Арміі Краёвай у Слоніме.

Аўтар прасочвае не толькі ўвесь гістарычны шлях Слоніма, а спыняецца нават на гарадах і мястэчках Беларусі, якія ў свой час уваходзілі ў Слонімскі павет. Як вандроўнік Тадэвуш Сасіньскі заглядае ў Дзярэчын, дзе знаходзілася сядзіба Сапегаў, у Альбярцін да Пуслоўскіх, у Марачоўшчыну і Косава, дзе нарадзіўся і хрысціўся Тадэвуш Касцюшка, у Парэчча — радзіму Міхала Валовіча, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1830 года, у Сынковічы, дзе знаходзіцца славуты храм абароннага тыпу XV — пачатку XVI стагоддзяў, у Жыровіцы, да іконы Маці Божай Жыровіцкай, і ў іншыя мястэчкі былога Слонімскага павета.

Апошні раздзел кнігі — паэтычны. У ім змешчаны вершы на польскай мове слонімскіх паэтаў, якія жывуць у Польшчы. У гэтых радках адчуваецца сум па маленькай радзіме, якую па волі лёсу яны некалі страцілі:

Bo ja jestem sama, jedna,
Od Slonima oderwana,
Sama, jedna
Zaplakana.

Кніга "Slonim" добра ілюстравана. Некаторыя здымкі ўбачыў упершыню. Гэта здымкі вуліцы Татарскай, вуліцы Міцкевіча (цяпер Першамайскай) 1935 года, панарамы Слоніма ў XVII стагоддзі, канала Агінскага 30-х гадоў, Слоніма ў ліпені 1944 года, Пятралевіцкай гары і іншыя. Ёсць і сучасныя здымкі горада.

Новае выданне пра старажытны горад Слонім Тадэвуша Сасіньскага для тых, хто цікавіцца гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

НАПІСАНАЕ ЗАСТАЕЦЦА

**У Браславе адбылася прэзентацыя кнігі "Архітэктурная спадчына Браслаўшчыны", выпушчанай выдавецтвам "Полымя" ў серыі "Помнікі беларускага дойлідства".**

**Яе аўтар — навуковы супрацоўнік Браслаўскага гісторыка-краязнаўчага музея Канстанцін Шыдлоўскі. Ёсць людзі, якія сваю любоў да Айчыны бачаць у штодзённай працы над тым, каб не заставалася белых плямаў у нашай гісторыі. Няхай гэта будзе і гісторыя роднага раёна. Канстанцін Шыдлоўскі — адзін з іх. Яго глыбокія веды гісторыі і надзвычайная працавітасць уражваюць. І на ўсё ў яго знаходзіцца час. Работа ў музеі, паездкі ў архівы рэспублікі і за яе межы, удзел у навуковых канферэнцыях і археалагічных раскопках, выхаванне дзвюх дачок і грамадскія абавязкі пакідаюць яму для работы над кнігамі толькі начныя гадзіны. І тым не менш, у свае трыццаць пяць гадоў Канстанцін — аўтар цэлага шэрагу кніг пра Браслаўшчыну і яе людзей. Ён адзін з аўтараў і каардынатар стварэння раённай "Кнігі памяці".**

**"Архітэктурная спадчына Браслаўшчыны" выйшла ў свет, знайшла свайго чытача.**

**НА ЗДЫМКАХ: Канстанцін ШЫДЛОЎСКІ і яго кнігі.**




**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

*ПАМЯЦЬ*

# ВІНАВАТЫ, ТАМУ ШТО ЯЎРЭІ

55 гадоў таму, 12 красавіка 1942 года, нямецка-фашысцкімі акупантамі і паліцаямі былі расстраляны нявольнікі жлобінскага гета. Каля дзвюх тысяч чалавек (сярод іх шмат было дзяцей, жанчын і старых) знайшлі свой вечны спакой на ўскраіне горада ў адным з супрацьтанкавых іроў.

Пачатак жа гэтай трагедыі быў пакладзены яшчэ ў жніўні 1941 года, калі акупантамі ў Жлобіне быў створаны канцэнтрацыйны лагер-гета. Сюды сагналі ўсіх мясцовых яўрэяў, а таксама іх супляменнікаў з гарадскога пасёлка Стрэшын, які на той час не ўваходзіў у склад Жлобінскага раёна. Размясцілі людзей у казармах і падсобных памяшканнях былога ваеннага гарадка, тэрыторыю абнеслі калючым дротам, паставілі ахову. Нявольнікі апынуліся ў невыносных умовах: холад, голад, антысанітарыя. Акрамя ўсяго, па начах у гета можна было пачуць крыкі дзяцей і жанчын. Гэта немцы і паліцаі займаліся рабаваннем, гвалтавалі, справа нярэдка даходзіла і да забойстваў. Але 12 красавіка 1942 года мучэнні людзей скончыліся...

За месяц да гэтай трагедыі, 11—13 сакавіка 1942 года, масавыя расстрэлы яўрэяў праходзілі яшчэ ў адным населеным пункце цяперашняй Жлобіншчыны — пасёлку Шчадрын (на той час ён уваходзіў у склад Парыцкага раёна Бабруйскай вобласці). Тут загінула звыш тысячы чалавек. Адзіная іх віна, што яны былі яўрэямі.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

# ДАПАМАЖЫЦЕ МУЗЕЮ У. КАРАТКЕВІЧА



У Оршы створаны музей "Нашы славутыя землякі". На пачатку яго работы ставілася задача: з дапамогай агульнадаступных крыніц выявіць імёны аршанцаў і асоб, цесна звязаных з горадам, якія дасягнулі вядомасці ў сваёй галіне дзейнасці.

Былі вывучаны энцыклапедычныя даведнікі, краязнаўчая літаратура, артыкулы ў мясцовым і цэнтральным друку, праведзены кансультацыі ў дзяржаўных і грамадскіх музеях. У выніку выяўлены дзесяткі імёнаў знакамітых аршанцаў, сабраны біяграфічныя звесткі пра іх. Сярод іх вядомыя беларускія пісьменнікі Алесь Стаховіч, Уладзімір Корбан, Янка Сіпакоў, Аляксандр Міронаў і іншыя — усяго больш за 50 прозвішчаў. Але зоркай першай велічыні, найбольш буйной фігурай сярод іншых славутасцей, безумоўна, з'яўляецца Уладзімір Караткевіч.

Вось чаму мы паступова прыйшлі да высновы, што ў Оршы больш мэтазгодна мець мемарыяльны музей У. Караткевіча. Такую ідэю падтрымалі Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Сяргей Законнікаў, Адам Мальдзіс. Знайшла яна ўзаемаразуменне ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, у шырокай аршанскай грамадскасці. Актыўную падтрымку і дапамогу ў стварэнні новай канцэпцыі музея абяцае кіраўніцтва Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, істотную дапамогу абяцае сястра пісьменніка Наталля Кучкоўская.



Трэба сказаць, што пераарыентацыя музея не азначае, што будуць забыты іншыя знакамітыя аршанцы. У экспазіцыях ім будзе адведзена дастойнае месца. І ўсё ж першым павінен быць У. Караткевіч!

На нашу думку, мемарыяльны музей прыцягне ўвагу літаратурнай грамадскасці не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, Польшчы, на Украіне, дзе творы пісьменніка карыстаюцца шырокай папулярнасцю, а таксама ў іншых краінах блізкага і далёкага замежжа. Спадзяемся таксама, што навукова-даследчая, літаратуразнаўчая дзейнасць у музеі выйдзе на якасна новую ступень, што дазволіць мець поўнае ўяўленне пра літаратурную, даследчыцкую, грамадскую дзейнасць У. Караткевіча.

У гэтай сувязі праз вашу газету мы звяртаемся да шырокай літаратурнай грамадскасці, да ўсіх, хто ведаў У. Караткевіча: дапамажыце стварэнню музея. Нас цікавяць дакументы, пісьмы, кнігі з аўтографамі пісьменніка, фотаздымкі, асабістыя рэчы і інш.

**Наш адрас: 211030, г. Орша, Паштовы завулак, 2. Музей "Нашы славутыя землякі".**

**В. ПЯТРУШЫН,**
**загадчык музея.**

**НА ЗДЫМКАХ: музей У. КАРАТКЕВІЧА ў Оршы; помнік пісьменніку ў яго родным горадзе.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## *З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# ЖЫЦЦЁ ПРАДАЎЖАЕЦЦА

У кнігарнях на пачатку года з'явілася кніга Уладзіміра Клімовіча "Лаліта і кактус", выдадзеная пры садзейнічанні фонду маладых літаратараў "Пегасавы крылы" (старшыня — А. Пашкевіч). Крыху пра аўтара. Ён з той кагорты, каго называюць "маладымі ў літаратуры" — пачаткоўцамі, хаця пражытыя гады сведчаць аб упэўненай сталасці. Біяграфія звычайная ці амаль звычайная: нарадзіўся, вучыўся, служыў у войску, працаваў. Па прафесіі акцёр, некаторы час працаваў на тэлебачанні, быў вядучым праграмы "Крок". Некаторы час займаўся літаратурнымі перакладамі ў Нямеччыне і Нідэрландах. У хуткім часе змяніў журналісцкую апратку на малінавы пінжак бізнесмена. Сёння У. Клімовіч у кагорце "новых беларусаў". Заснаваў Прэмію перспектывы, якая ўручаецца маладым літаратарам. Зараз на творчай працы.

Відавочна, што наша літаратура ў асобе гэтага чалавека знайшла не толькі таленавітага мастака слова, але і, што не менш важна пры сённяшнім крытычным "безграшоўі" нашай дзяржавы, зычлівага мецэната. Першыя крокі цяжкія заўсёды, а ў сферы духоўнай творчасці тым больш. Нягледзячы на гэта, зборнік прозы У. Клімовіча "Лаліта і кактус" можна лічыць удалым. (Словы "першыя крокі" пра кнігу Клімовіча — адносная няпраўда, бо дэбют адбыўся раней — у кнізе "Выратаванне бязданню").

"Лаліта і кактус" пульсуе ўва мне рэхам бяссонных начэй і шчымлівым болем за герояў маіх твораў", — так успрымаецца аўтарам яго першы (па сваёй сур'ёзнасці) літаратурны праект. І далей: "Вось гэты боль, магчыма, і штурхаў мяне да пісьмовага стала, прымушаў браць у рукі асадку... А калі шчыміць унутры, калі ты не можаш заснуць і няўцямна глядзіш у цёмную столь, тады ёсць толькі адно: сядаць і пісаць, бо напісанае — застаецца". Валодзя з тых людзей, хто не можа не пісаць, асабліва, калі шчыміць-смыліць душа, гэты самы далікатны чалавечы орган... А баліць яна, як і ў кожнага адданага сына, па старых бацьках, па любай, усякі раз згадваемай Лідчыне, па кожнаму асобна ўзятаму чалавеку.

Заканамерным вынікам працы душы (не толькі рук) і стаў гэты зборнік. У яго ўвайшло 24 розных па тэматыцы і жанру апавяданні і трагедыя-прыпавесць "Беркуты". Першае, на чым спыняецца позірк пасля мілавіднага фота юнацкіх гадоў, — сціплае, але важкае прысвячэнне "Маёй Лідчыне". Прысвячэнне, якое стала для аўтара эпіграфам: большасць твораў у кнізе знітаваны агульнай ідэяй любові і пашаны да землякоў, да бацькоў, да хаты, дзе нарадзіўся і вырас, свайго маленства. Аб'ёмнаму высвятленню галоўнай ідэі зборніка, якая мне бачыцца ва ўзвелічэнні чалавечага ў чалавеку, у глыбокім пазнанні чалавекам сябе і акаляючага свету, спрыяе нестандартнасць думак і пачуццяў аўтара, псіхалагічна абгрунтаваны падыход да жыццёвых падзей.

Кажуць, што пра значнасць мастака мяркуюць па важкасці праблем, якія ён уздымае. Думаючы над прачытаным, прыходзіш да высновы, што для гэтага аўтара нязначных праблем проста не існуе: гэта "бацькі і дзеці" (апавяданні "Музыкаў хлеб", "Бацька"), вечная праблема кахання і вернасці ("Яе каханне", "Лаліта і кактус"), такая балючая праблема нашага часу, як старыя і адзінокія людзі на вёсцы ("Паўлюк"), праблема "лішняга" чалавека, адрынутага грамадствам ("Беркуты")... Гэты спіс можна доўжыць і доўжыць, такі шырокі дыяпазон аўтарскага кругагляду.

Аднак самай значнай асобай для пісьменніка стаў яго бацька — да такой высновы прыходзіш, перагортваючы літаральна першыя старонкі кнігі. Адчуваецца, што яго роля ў жыцці галоўнага героя (ён і ёсць сам аўтар) намнога большая, чым чалавека, які проста даў пачатак жыццю. Бацька — гэта і прыклад для пераймання, і духоўны арыенцір у нашым складаным свеце, ён першы дарадца, першы настаўнік. Не шмат хто з сыноў можа пахваліцца такой шчырасцю ўзаемаадносін. У той жа час нельга ўспрымаць гэтыя апавяданні ("Музыкаў хлеб", "Капэла весялосці", "Бацька" і інш.) як адыёзную малітву, як пакланенне нечаму бесцялеснаму. Бацька ў творах Клімовіча — жывы чалавек са шматлікімі слабасцямі і хібамі характару (часам не дужа далікатны, часцяком "падпіўшы"). І пры ўсім пры тым, гэта светлы і чысты вобраз, гэта недасягальна чыстая душа, гэта Асоба, воблік якой сын увекавечыў перш за ўсё ў сваім сэрцы. Па-мастацку пераканаўча малюе яго аўтар, не прыбягаючы для гэтай мэты да нейкіх надзвычай складаных літаратурных сродкаў. У гэтых апавяданнях усё проста, як у жыцці — вобразы, думкі, словы. І напісанае такім чынам імгненна адбіваецца ў сэрцы таго, хто чытае, бо ў кожным радку свеціць драбок душы аўтара.

Звыклая штодзённасць, старонкі маленства — не адзінае, пра што разважае У. Клімовіч на старонках сваёй кнігі. Яго цікавіць і жыццё равеснікаў — сённяшняй моладзі, чыім прыстанішчам стаў сучасны горад.

Па-мастацку дэталёва спрабуе аўтар аналізаваць складаныя жыццёвыя працэсы ў апавяданнях "Халодная хлюпкая восень", "Яе каханне" і інш. Іх героі часта стаяць перад лёсавызначальным выбарам: застацца верным каханню, сабе, сваім маральным прынцыпам ці скарыцца абставінам? Пусціць усё на самацёк ці "толькі цёплым водгукам сэрца" даць пачуццю шанс "пусціць кволыя атожылкі" ("Яе каханне"). Гераіня апавядання "Лаліта і кактус" Лаліта (гэткая ж экзальтаваная ўлюбёнка, як і набокаўская Лаліта) горка расчароўваецца ў каханні, пачуццё згасае гэтак жа хутка, як і ўзнікла. Умомант яго месца займае раўнадушша. Але (о, цуд!) зацвітае калючы кактус Элік (так ласкава кліча яго гаспадыня), і яго буйная пунсовая кветка становіцца для гераіні сімвалам, здавалася б, страчанага кахання. Не, яно не страчана, не будзе страчана, пакуль ёсць той, хто дзеля цябе гатовы на самыя непрадказальныя ўчынкі. Думаецца, не выпадкова назва гэтага твора стала загалоўкам усяму зборніку. У. Клімовіч разумее, унутрана адчувае, што багацце душы, сіла пачуцця пры ўсёй знешняй стрыманасці выражаецца часцей за ўсё не словам, а крытэрыямі больш дасканалымі і тонкімі. Воляю мастака — гэта кветка, і не простая, а такое рэдкае захапляючае відовішча, як кветка кактуса, які цвіце толькі некалькі разоў за ўсё жыццё. Так і ў чалавека: сапраўднае пачуццё — з'ява не сезонная, яно можа ўзнікнуць з перыядычнасцю адзін раз за доўгі чалавечы век.

Вызначальным, на мой погляд, стала ў зборніку апавяданне "Час, калі плавіцца Сонца". У ім развагі аўтара пра пакуты самаачышчэння, якога прагне праз некаторы час усякая незаскарузлая душа. Сузіранне міфічнай блакітнай Птушкі шчасця дае герою сілы скінуць з сябе "і скаванасць, і зайздрасць, і фальш, і здраду" і адрадзіцца наноў са светлымі і чыстымі памкненнямі, каб зноў жыць і грашыць, а потым наноў шукаць дарогу ў пясчанай пустыні свае паспеўшай ачарсцвець душы, каб аднойчы ўмыцца кроплямі жыварoднага дажджу ўнутранага ачышчэння, каб яшчэ і яшчэ раз зведаць асалоду самай цяжкай у свеце перамогі — перамогі над сабой.

Дэбютам у жанры драматургіі стала для У. Клімовіча трагедыя-прыпавесць "Беркуты". Пачатак заінтрыгоўвае: "Амаль кожны дзень сродкі масавай інфармацыі перадаюць прыкметы прапаўшых людзей. Бывае, што некага адшукаюць. Але ў большасці выпадкаў ніхто не ведае, дзе гэтыя людзі, што з імі адбываецца і як іх знайсці... Гэтага не ведае ніхто, акрамя неба..." Праўда, знаёмая карціна? Па версіі аўтара, гэтыя людзі сыходзяць у горы, бо не могуць больш цярпець несправядлівасці, лічаць недарэчным далейшае суіснаванне ў грамадстве людзей. Там паступова ў іх адрастаюць крылы і ператвараюцца яны ў грозных птушак беркутаў. Але не ўсё ладна і там, на, здавалася б, зямлі запаветнай. Не знаходзяць спакою ў душы некаторыя беркуты, ім хочацца назад, у людскі вір жыцця. Вось так і многія з нас, хто не ў ладах з уласным унутраным светам, хочуць уцячы ад сябе, адасабляючыся ад іншых, ды не ўсіх спасцігае жаданае супакаенне. Шматлікімі "птушынымі дыялогамі" аўтар сцвярджае думку, што не існуе такога грамадства, у якім не было б праблем, яны непазбежныя. Адзінае выйсце — з розумам іх вырашаць.

"Я" і маё другое "Я" — так можна ахарактарызаваць праблемную накіраванасць яшчэ аднаго цыкла апавяданняў зборніка "Лаліта і кактус". Як відаць з папярэдняга твора і як падказвае нам мудрае жыццё, чалавечая асоба не заўсёды бывае ў ладах сама з сабою. Тым больш асоба творчая. І заканамерны факт: чым больш яна працуе над сабою, у сваім духоўным чэраве капаецца, тым больш знаходзіць у сабе заганаў і хібаў і на асацыятыўным узроўні пачынае ўсведамляць частковую ці поўную сваю са светам і з сабою дысгармонію. Як вынік — другое "Я" набывае ў думках ці на яве (гледзячы, хто на якой стадыі) цялесную абалонку і становіцца бескампрамісным і жорсткім апанентам у дыялогах "сам-насам". Хто не ведае, што гэта за рэч "мой унутраны двайнік".

Калі кнігу захоча пачытаць жанчына, то адразу скірую яе ўвагу да апошняга твора зборніка, апавядання "Блюз асенніх вятроў". Такую вытанчанасць пачуццяў, такія дасканалыя сімвалы і медытатыўныя асацыяцыі, такія лірычныя філасофскія развагі вы здолееце знайсці далёка не ў кожнага аўтара. Гэты невялікі "літаратурны блюз" (калі можна такое ўявіць) уяўляе сабой удалае спалучэнне высокай пробы асабістых і пісьменніцкіх здольнасцей Уладзіміра Клімовіча. Душэўны стан яго лірычнага героя (скразнога, які ідзе праз усе апавяданні) — асенняя настальгія, ранімыя струны яго душы кранаюць пяшчотныя гукі сумна-трапяткога блюзу, але ён [герой] не памірае сам у сабе, ён разумны, спакойны, разважлівы. Ён ведае: халадок Восені зменіць цяплынь Вясны, аднаўленне такое ж непазбежнае, як і адміранне, гэта закон усяго жывога. І таму заканчвае аўтар твор так: "Бацька накляпаў касу, занёс у хлеў і павесіў на сцяну — да вясны". Адным словам, жыццё прадаўжаецца...

**Ганна ЗАЙЦАВА.**

## *З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА*

Сяргей ГРАХОЎСКІ

### БЯГУЦЬ ГАДЫ

Лісты не прыходзяць, няма тэлеграм,
Табе дазваніцца ніяк немагчыма,
І нават з адчаю глытнуў бы сто грам,
Каб ты ажыла прад вачыма.

Магчыма, цябе і на свеце няма,
А ў памяці — быццам Мадонна святая,
Магчыма, сухімі снягамі зіма
Ці восень лістамі твой след замятае.

Пакуль я жывы, ты жывеш, як жыла,
Адданая, прагная і трапяткая.
Шкада, што гнязда на дваіх не звіла,
Што сёння мяне ўжо ніхто не спаткае.

І я не праводзіў цябе назаўжды
У дождж ці ў крутыя марозы.
Імкліва бягуць за гадамі гады,
Як позні горкія слёзы.

### ЗАБЫЦЦЁ

Як хутка забываецца дабро,
Нібыта ты выконваў абавязкі:
Дарыў увагу, "вечнае пяро",
І кветкі, і расказваў казкі.

Апошняе ахвотна аддаваў,
Хлусіў, што мне ўсяго хапае,
Ніколі пра сябе не бедаваў,
А ўдзячнасць заставалася сляпая.

Аднойчы пахваліўся земляком, —
Тутэйшым патрыётам, не замежным,
І паляцеў мне ў вочы брудны ком
З папрокамі: "І ты стаў незалежным!"

Я словам не азваўся на папрок,
Больш сустракацца не было нагоды.
Я да дзвярэй зрабіў апошні крок
І развітаўся назаўсёды.

### ЧАСОВЫЯ

О колькі іх прайшло і канула ў нябыт,
Цароў і ваяводаў непрыступных,
Што душы трушчыць мелі спрыт,
Ашукваць і сучасных, і наступных.

Мудрэйшых за сябе няславілі яны,
Прысудамі у іх грымелі словы,
Хоць кожны разумеў, што — баўтуны
Ад нараджэння іхнія галовы.

Яны шчаслівыя і пэўныя былі,
Што ў іх трывалая і вечная улада.
Хоць і рыпіць, трывае вось Зямлі
Цяжар хлусні без перакладу.

Імёны іх, як блёкат, адцвілі,
Не засталося следу і ўяўлення,
А тых, каго таптал і клялі,
Уславілі і ўславяць пакаленні.

### УВАСКРЭСЕННЕ

Распяты Хрыстос ўваскрасае штогод.
Званы не сціхаюць, расчынены дзверы, —
У храмы зняверраны колісь народ
Спяшаецца з тонкімі свечкамі веры.

Каб не скарыцца ніякай бядзе
Ў святым, паўзабытым маленні,
Не быць абылганым на страшным судзе
І не станавіцца павек на калені.

Каб загартаванае тройчы агнём —
І сутнасць душы, і сумлення аснова,
Вяло і свяціла начамі і днём
Святое пявучае матчына слова.

Паверым і мы у шчаслівейшы лёс,
У мудрасць і сілу ўрачыстае песні,
Каб так, як калісьці цярплівы Хрыстос,
І мы назаўсёды ўваскрэслі.

# «...У ДОЛІ І НЯДОЛІ ІШЛІ РАЗАМ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

рыя перадалі праваслаўнай царкве, а рэчы уніяцкага культавага ўжытку выкідваліся бацюшкамі на сметнік як непатрэбныя. А гэта ж былі творы высокага культавага мастацтва XVII—XIX стагоддзяў. Ідэю збору на тэрыторыі Беларусі уніяцкага мастацтва актыўна падтрымліваў дзеючы ў Львове мітрапаліт уніяцкай царквы Андрэй Шаптыцкі. Прыгадаем, што уніяцкая царква на Львоўшчыне была забаронена толькі пасля другой сусветнай вайны.

Ужо на час стварэння львоўскага музея там знаходзіліся беларускія гістарычныя акты, рэдкія палемічныя старадрукі з Беларусі XVI—XVII стагоддзяў, партрэты віленскага каноніка Янкоўскага, уніяцкага святара Іасафата Кунцэвіча, Рыгора Хадкевіча; рызы, царкоўны посуд з гістарычна вядомых цэркваў Беларусі. Збор царкоўных каштоўнасцяў І. Свяціцкі лічыў вельмі важным таму, што "ў паняволенага народа толькі царква магла яшчэ зберагчы сёе-тое з прыдбанняў нацыянальнай культуры". Сабраў ён гэтыя творы ў сакавіку-ліпені 1905 года, наведаўшы Віцебск, Мінск, Смаленск, Вільню. У 1906 годзе Свяціцкі даведаўся, што ў Мінску існуе беларускі архіў — музей Генрыка Татура. Так у 1906 годзе Свяціцкі знарок прыехаў у Мінск да Г. Татура, каб агледзець яго збор старажытнасцяў. Цікава чытаюцца яго ўражанні ад знаёмства з мінскім калекцыянерам: "Яго сядзіба за мінскаю электрычнаю станцыяй, на ўскраіне горада, была па-сярэдневяковаму абнесена высокім парканам і частаколам. З вуліцы трэба было моцна стукаць кулакамі і бразгаць клямкаю, пакуль на страшны брэх сабак выйшаў прысадзісты, рудаваты, з нізкаю мясістаю шыяй, з выразнымі скуламі — адным словам, татарын. Гэта і быў сам гаспадар Татур. Размаўляў толькі па-польску, напэўна, з мясцовым "літоўска-беларускім" акцэнтам. Рускіх чыноўнікаў, бацюшак, манахаў не любіў і з'едліва высмейваў іх за тую дабрадушную даверлівасць, з якой яны перадавалі яму каштоўныя скарбы мінуўшчыны. Сам ён асабіста быў добрым псіхолагам і ўмеў чытаць праз знешні вобраз у душы. Не дзіва, што ўдалося яму сабраць сапраўды нямала".

У першы прыезд І. Свяціцкі нічога не змог купіць, бо Г. Татур запрасіў за выбраныя з яго калекцыі творы 10 000 рублёў.

Наведаўшы Мінск у снежні 1907 года, Свяціцкі пазнаёміўся з вучнем Татура — Іванам Луцкевічам, які даў згоду прадаць львоўскаму нацыянальнаму музею слуцкія паясы, некалькі партрэтаў, дзяржаўных актаў і антымінсаў. Але гэта былі толькі перамовы.

У лютым 1908 года Свяціцкі зноў прыехаў у Мінск, каб выкупіць рэчы Татура і адправіць іх у Львоў. Але Г. Татур ужо памёр, і ўсёй яго маёмасцю распараджалася Беларуская сацыялістычная грамада на чале з І. Луцкевічам. Прывезеныя ад Татура рэчы былі далучаны Свяціцкім да раней прыдбаных у Беларусі старажытнасцяў, якія і сталіся асновай Беларускага аддзела Нацыянальнага музея ў Львове. Пазней аддзел узбагаціўся выдатнымі матэрыяламі старажытных актаў і старадрукаў Скарыны (у 1913 годзе Свяціцкі здабыў для музея 12 кніг яго Бібліі), добра падабранымі ўзорамі беларускага народнага мастацтва ў часе экспедыцый па Беларусі ў 1910, 1926 і 1930 гадах.

Наш шаноўны арганізатар выставы Сяргей Панізьнік наведаў у Львове Музей украінскага мастацтва і пабачыў фонды беларускага аддзела, якія яму паказала дачка Свяціцкага — Вера Іларыёнаўна, галоўны захавальнік музея. Ён убачыў 23 слуцкія паясы, збор абразоў, тры пергаментныя кірылічныя рукапісы беларускай рэдакцыі XIII—XIV стагоддзяў, частку пражскіх выданняў Ф. Скарыны 1517—1519 гадоў, а таксама яго кнігі, надрукаваныя ў Вільні ў 1525 годзе. Там знаходзіцца 100 экземпляраў кніг з 20-ці старадаўніх беларускіх кнігарняў. Сярод іх 21 кніга з Супрасля, 11 — з Еуя, у тым ліку "Граматыка Мялецція Сматрыцкага", шмат кніг з друкарні Мамонічаў у Вільні і М. Вашчанкі ў Магілёве, з друкарняў Заблудава і Куцейна; царкоўны (уніяцкі) культавы посуд, этнаграфічныя рэчы.



Гэтая цікавая выстава ўключае не толькі матэрыялы, прысвечаныя стварэнню беларускага аддзела ў Львоўскім нацыянальным музеі, але і ўвогуле шмат найкаштоўнейшых матэрыялаў, якія сведчаць пра добрыя беларуска-ўкраінскія ўзаемадачыненні на працягу стагоддзяў. Пра гэта плённае сяброўства пісаў у кніжачцы "Беларусы" ўкраінскі гісторык Іван Крыпякевіч яшчэ ў 1909 годзе: "...У долі і нядолі ішлі разам". Вядома, што "Біблію" Ф. Скарыны перапісваў на Украіне Васіль Жугаёў у 1568 годзе. Творчасць Скарыны ў Львове вывучалі Я. Галавацкі, А. Петрушэвіч, А. Вахнянін, А. Канчалоўскі, А. Ярэмчанка, І. Агіенка і г. д.

Свае меркаванні пра Скарыну выказвалі М. Грушэўскі, І. Франко, М. Вазняк. Д. Дарашэнка даследаваў творчасць Багушэвіча, Лучыны, Купалы; І. Свяціцкі — творчасць Купалы, Коласа і Цёткі, ён сабраў вялікую "беларускую бібліятэку". Яшчэ ў 1908 годзе ў абарону беларускага народа выступаў М. Антаневіч у кнізе "История Белой Руси и белороссы", які адзначыў, што на працягу ўсёй сваёй гісторыі гэты народ быў у цэнтры еўрапейскіх спрэчак аб ім.

Менавіта Львоў стаў своеасаблівай "меккай", як адзначыла В. Іпатава ў артыкуле "Паэт у музейным інтэр'еры" ў газеце "Культура", для часткі нашай нацыянальнай інтэлігенцыі. Тут жыла ў палітычнай эміграцыі наша паэтка-рэвалюцыянерка Цётка на працягу 1905—1912 гадоў і вучылася ў Львоўскім універсітэце. З ёю сябравала сям'я Свяціцкага. Тут пры дапамозе Пшанічнага ў 1906 годзе былі выдадзены два яе паэтычныя зборнікі "Скрыпка беларуская" і "Хрост на свабоду".

Наведаўшы ў 1908 годзе Мінск, І. Свяціцкі пазнаёміўся з Янкам Купалам. Яны сталі шчырымі сябрамі і вялі сталую перапіску; ён жа дапамагаў усталявацца ў Львове Цётцы.

Да Львова і да Украіны ўвогуле дужа цёпла ставіўся М. Багдановіч, які перакладаўся на ўкраінскую мову яшчэ пры яго жыцці ("Галіцкая Русь", "Чырвоная Русь", "Угорская Русь", "Львоў"), якія і цяпер яшчэ можна ўбачыць у львоўскіх бібліятэках.




У наш час беларускую паэзію перакладаюць і выдаюць у Львове такія яе прыхільнікі, як Уладзімір Лучук, Раман Лубкіўскі, Іван Гнацюк, Мая Львовіч. Апошняя прызналася: "...Душа мая аддадзена адной мове — украінскай... Мова наша — акіян бязмежны. І дзесь блізка віруе акіян мовы беларускай. Ён — нібы працяг... Беларусь люблю праз Украіну". Такія ж любоўныя пачуцці да Украіны адчувае і выказвае шукальнік беларускіх скарбаў па свеце паэт Сяргей Панізьнік, які распавёў пра гэта ў час адкрыцця выставы:

**Я сінявокім краем ганаруся,**
**куды б вандроўны вецер ні паслаў.**
**Не жыў бы ў сэрцы сум па Беларусі —**
**я Украіну б роднаю назваў.**

**Сусед суседу верыў і ахвоча**
**не раз дапамагаў у жорскі век.**
**Аб Украіне**
**марыць Багдановіч,**
**Тут Цёткі дух нязломлены жыве.**

**Тут Сеч бунтарнай еднасцю апаліць**
**І ўскалыхне, як вольны вецер плёс.**
**Здаецца, лёс трывожнага Купалы**
**Згадаў Тараса неспакойны лёс.**

Намаганнямі І. Свяціцкага Львоў і Украіна ўвогуле спазналі імёны апосталаў беларускай ідэі — Купалы, Багдановіча, Цёткі і пазнейшых нашых дзеячаў. Скарынаўскія трыдыцыі славянскай еднасці працягваюцца ў Львове сябрамі культурна-асветніцкага таварыства імя Ф. Скарыны "Белая Русь", якія выдаюць газету "Беларус Галіччыны". Справы і ідэі І. Свяціцкага ажываюць на старонках беларускіх даследчыкаў Т. Кабржыцкай, В. Рагойшы, В. Коўтун, у дзейнасці Скарынаўскага цэнтра, Міжнароднага фонду Янкі Купалы...

Пра сваё жыццё і вучобу ў Львове С. Панізьнік з удзячнасцю і замілаваннем распавядаў падчас адкрыцця выставы:

"...Больш 30 гадоў назад у Львове было заснавана "Беларускае зямляцтва". Пад апякунствам універсітэта, Львоўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Украіны, пры садзеянні грамадскіх суполак мы ладзілі літаратурныя вечарыны, музычныя імпрэзы, ушанаванні імёнаў Багдановіча, Цёткі, Свяціцкага, Франка... Мы пісалі рэфераты, даследавалі нашы гістарычныя сувязі, перакладалі з украінскай мовы, разам спявалі..."

Пра плённыя кантакты беларускіх і ўкраінскіх дзеячаў, пра духоўную ўзаемападтрымку беларускага і ўкраінскага народаў гаварылі пры адкрыцці выставы прафесар А. Мальдзіс, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь У. Жаліба, Ганна Сурмач ("Бацькаўшчына"). Гэтую выставу старшыня камісіі "Вяртанне" А. Мальдзіс палічыў пачаткам міжнароднага сімпозіума "Непрымусовыя формы вяртання страчаных каштоўнасцяў і сумеснае іх выкарыстанне", які мяркуецца арганізаваць у Мінску на сродкі ЮНЕСКА ў ліпені.

І сапраўды выстава вяртае ў кантэкст страчанай спадчыны праз ілюстрацыі, дакументы і тэксты помнікі беларускай культуры, якія ў пачатку XX стагоддзя былі прададзены ў львоўскі музей мінскім збіральнікам беларускіх старажытнасцяў Генрыкам Татурам. Прадаючы калекцыю ў музей Аўстра-Венгрыі, І. Луцкевіч быў перакананы, што толькі такім шляхам гэтыя помнікі мінуўшчыны можна будзе захаваць для нашчадкаў, бо музеям Расійскай імперыі творы уніяцкага мастацтва былі непатрэбныя.

Дзякуючы гэтай выставе і перш-наперш нашаму паэту Сяргею Панізьніку, які ў Беларусі зараз больш чым паэт, ён грамадзянін, сябры грамадскай камісіі "Вяртанне" пры БФК атрымалі своеасаблівую лоцыю для больш паглыбленых пошукаў і вяртання ў кантэкст беларускай культуры страчаных помнікаў. А самае галоўнае — выстава пераконвае ў шчырых добрасуседскіх адносінах двух народаў — беларускага і ўкраінскага — на працягу стагоддзяў.

Мая ЯНІЦКАЯ.

**НА ЗДЫМКАХ: у зале музея Янкі Купалы, дзе экспануецца выстава; адзін са стэндаў.**

Фота Віктара СТАВЕРА.

# «ДУДАРЫКІ»



Вось ужо чвэрць стагоддзя працуе ансамбль "Дударыкі" Мінскай нацыянальнай гімназіі № 111. У яго рэпертуарнай палітры самыя разнастайныя песні, танцы, наігрышы на старадаўніх народных інструментах — дудцы, жалейцы, ліры, цымбалах, скрыпцы, гармоніку. Ёсць і свае аўтарскія творы, якія ўпрыгожваюць канцэртныя дзеі: "Голас дзяцінства", "Маці Беларусь", "Прывітальная", якія напісаў верны сябра ансамбля Мікалай Шынкевіч.

Мастацкі кіраўнік дзіцячага фальклорнага калектыву Дзмітрый Ровенскі паставіў перад ім высакародную мэту — адраджаць і памнажаць лепшыя ўзоры музычна-песеннай і харэаграфічнай спадчыны. Таму і рэпетыцыйны клас пераабсталяваў і аздобіў пад звычайную сялянскую хатку з цаглянай печкай, калыскай, калаўротам, абрусамі, пляцёнкамі каўбас і цыбулі, насценным сямейным альбомам і бажніцай. Былы сялянскі побыт у значнай меры пашырае кругагляд гарадской дзятвы, дае больш яскравае ўяўленне пра тое асяроддзе, у якім нараджаліся неацэнныя скарбы народнай творчасці, дазваляе юным выканаўцам адчуць першародную яе прыгажосць і чысціню. Як сапраўдныя музычныя інструменты, гучаць у канцэртах пілы, косы, набілцы, маслабойкі, чыгуны, падносы. Сваё адметнае ўвасабленне фальклору прыносіць калектыву поспех і заслужаныя ўзнагароды. Без "Дударыкаў" зараз не абыходзіцца ніводная значная падзея ў рэспубліцы — ці гэта тэлеконкурсы "Чырвоныя гваздзікі", "Усе мы родам з дзяцінства", ці рэспубліканскія фестывалі, святы, юбілеі. Ансамбль — лаўрэат і дыпламант шматлікіх прэстыжных беларускіх і зарубежных мерапрыемстваў. Сярод іх — усебеларускі фестываль, прысвечаны "Году сям'і", за плённы ўдзел у якім калектыў узнагароджаны ганаровым дыпломам Міжнароднай арганізацыяй ЮНЕСКА пры ААН. "Дударыкі" з гонарам носяць пачэснае званне "Узорнага калектыву".

Трыццаць хлопчыкаў і дзяўчынак ад сямі да шаснаццаці гадоў жывуць дружнай творчай сям'ёй. І прыкладам у гэтай мастацкай супольцы з'яўляюцца бацька, маці і двое іх дзетак з дынастыі Ровенскіх, якія ўдзельнічаюць у ансамблі пятнаццаць гадоў. Мастацкі кіраўнік, адмыслова валодаючы амаль усімі народнымі інструментамі, перадае выхаванцам свае музычныя навыкі. І дзеці вельмі чуйныя да гэтай творчай шчодрасці. Кожны ўдзельнік валодае зараз шасцю і болей музычнымі інструментамі. У час канцэрта яны толькі паспяваюць мяняць іх. Юныя артысты працуюць на сцэне па тры-чатыры гадзіны. І гледачы, як заўсёды, і шкадуюць іх, і адарвацца не могуць. Музыку і песні "Дударыкаў" са шчырай цеплынёй прымаюць не толькі на радзіме, а і ў Германіі, Італіі, Фінляндыі, Польшчы.

За ўсім гэтым стаіць вялікая паўсядзённая работа мастацкага кіраўніка-канцэртмайстра. З прыходам у ансамбль вядомага ў рэспубліцы знаўца і выканаўца народна-бытавога танца Мікалая Котава ў дзяцей нібы новыя крылы выраслі. Іх песні і музыка набылі дзівосную харэаграфічную афарбоўку. Удзельнікі ансамбля радуюць сваіх удзячных прыхільнікаў традыцыйнага мастацтва няўрымслівай і неўтаймаванай энергіяй і імпэтам.





Ой, ты, полечка-трасуха,  
Добрая, вясёлая.  
Грай, гармонік, дудкі, скрыпкі —  
Музыка бадзёрая.

Адольф СУРЫНОВІЧ.

НА ЗДЫМКАХ: выступаюць "Дударыкі".

Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.

## ВЫДАВЕЦТВА ПРЫ ЗГУРТАВАННІ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА» РЫХТУЕ ДА ВЫДАННЯ РАМАН ВІКТАРА ВАЛЬТАРА «РОДЖАНЫЯ ПАД САТУРНАМ»

Напэўна, чытачы "Голасу Радзімы" памятаюць яго змест: у 1991—1992 гадах раман упершыню быў надрукаваны менавіта на старонках "Голасу Радзімы".

Знойдзены ў Вільні рукапіс рамана В. Вальтара (1902, Дзвінск — 1931) знаёміць чытачоў з дзейнасцю беларускай, рускай, украінскай эміграцый у даваеннай Чэхаславаччыне, прэзідэнтам якой стаў Т. Масарык. Героі твора — маладыя людзі з абшараў Заходняй Беларусі, латгальскага памежжа ў Латвіі. Яны, стыпендыяты чэшскага ўрада, прыехалі ў 20-я гады набываць у Празе веды. Мараць аб тым, каб, вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, паслужыць адраджэнню Беларусі.

Са старонак рамана паўстаюць каларытныя фігуры П. Крэчэўскага, Т. Грыба, Я. Станкевіча, П. Вяршыніна, прафесара Карлава універсітэта Я. Ляцкага... Прыгодніцкі сюжэт, любоўныя інтрыгі, прароцкія высновы аўтара, чый талент сугучны таленту А. Мрыя, — усё гэта дае права сцвярджаць, што вяртаецца з нябыту цікавы мастацкі твор.

Кніга праілюстравана слайдамі і малюнкамі Прагі, архіўнымі матэрыяламі беларускай прысутнасці ў Латвіі і Чэхіі. Яе выхад прымеркаваны да 95-годдзя з дня нараджэння аўтара і 75-годдзя Дзвінскай беларускай дзяржаўнай гімназіі, прысвечаны 600-годдзю беларуска-чэшскіх узаемадачыненняў.

Але перш чым друкаваць кнігу, выдавецтва хоча ведаць, ці разыдзецца яна і якім тыражом.

***ТАМУ ПРОСЬБА ДА ЎСІХ, КАМУ ДАРАГОЕ БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА, ПАДТРЫМАЦЬ ВЫСІЛКІ ВЫДАЎЦОЎ.***

***Заказы на кнігу Віктара Вальтара "Роджаныя пад Сатурнам" накіроўваць па адрасу:***

220053, Беларусь, Мінск,  
Даўгінаўскі тракт, 52-9.  
Тэлефон: 375/017/ 239-87-24, 223-82-24  
Тэлефон/факс: 375/017/ 213-05-44 /х./

## *ТЭАТР КВЕТАК*





Адбылася прэзентацыя тэатра кветак, створанага на базе Віцебскага абласнога аб'яднання пазашкольнай работы. Дзеці навучыліся ствараць сваімі рукамі арыгінальныя букеты і кампазіцыі з кветак, падбіраць кветкі да ўбораў.

НА ЗДЫМКАХ: выступленне ў тэатры кветак; вучаніца 7-га класа віцебскай школы № 34 Вера САЛАЎЁВА са сваёй кампазіцыяй кветак.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 488. Падпісана да друку 1.4.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.